Цана 15 гр.

Przesyłka opłacona ryczałtem

# БЕЛАРУСКІ ФРОНТ

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У МЕСЯЦ

РЭДАКЦЫЯ і АДМІНІСТРАЦЫЯ:
Вільня, Вострабрамская вул. 1 — 20 (Wilno, ul. Ostrobramska 1 — 20).
Адчынена ад 9 да 19 г.

Выпіска: на год — 2 зал., на паўг. — 1 зал., на 3 м-цы — 50 гр.
Нумар контэ паштовага разрахунку: 100

НЕЗАЛЕЖНЫ НАРОДНА-РАДЫКАЛЬНЫ ЧАСАПІС

№ 8 (30) | ВІЛЬНЯ, 5 жніўня 1938 г. | ГОД III

## Тварэньне беларускага цэнтру.

Беларусы ў навейшых часох пачалі тварыць свой палітычны цэнтр у 1917 годзе, зараз пасьля расейскай рэвалюцыі. Зусім зразумелая і натуральная рэч, што ў тварэньні гэтага цэнтру беларусы шукалі абгрунтаваньня ў мінуўшчыне і навязвалі да сваіх гістарычных традыцыяў. Падставай для беларускай палітычнай думкі ў гэтым кірунку былі тыя цэнтры, якія беларускі народ быў стварыўшы даўней і каля якіх канцэнтраваў сваё палітычнае, культурна-нацыянальнае і эканамічнае жыцьцё.

Абсэрвуючы натугі беларускага народу да стварэньня ў навейшых часох свайго палітычнага цэнтру, трэба зьвярнуць увагу на адну характэрную праяву: беларусы пачаткова зьвярнуліся не да традыцыяў Полацкага, але Віленскага цэнтру. Чаму гэтак сталася, мы ў гэтым артыкуле пісаць ня будзем; магчыма, што віленскія традыцыі былі жывейшымі ў памяці, чым полацкія; магчыма, што беларусы на пачатку ня чуліся ў сіле будаваць выключна свой палітычны цэнтр, магчыма яшчэ іншыя прычыны — мы тут сьцьвярджаем толькі факт, што беларусы пры першай магчымасьці пастанавілі стварыць разам з літоўцамі цэнтр у Вільні, так як гэта было даўней, калі Беларусь і Літва тварылі адну дзяржаву. З гэтай мэтай прадстаўнікі беларускага народу зьвярнуліся афіцыяльна да прадстаўнікоў літоўскага народу (красавік 1917 году) з прапазыцыяй супольнай працы на палітычным грунце, з тэй мэтай, каб адбудаваць даўнейшае Вялік. Княства Літоўскае, абыймаючае Літву і Беларусь. Матывы гэтага супрацоўніцтва беларусы падавалі такія: 1) слаўную супольную гістарычную мінуўшчыну; 2) супольнасьць палітычных і сацыяльных інтарэсаў, прыгэтым паказвалася на патрэбу для беларусаў доступу да Балтыцкага мора, а для літоўцаў — абшырнага заплечча; 3) супольную абарону перад сільнымі суседзямі. Апроч гэтага беларусы мелі на ўвазе развязку справы Вільні, як даўнейшай супольнай сталіцы.

На гэту прапазыцыю адказ літоўцаў быў адмоўны з такіх прычын: 1) літоўская справа ёсьць ужо справай міжнароднай, а беларуская — толькі нутраной расейскай і дзеля гэтага літоўцы ня могуць сваей літоўскай справы вязаць з беларускай; 2) справа ўтварэньня б. Вял. Княства Літоўска-Беларускага для літоўскай палітыкі ў сучаснасьці ня ёсьць актуальнай. (Шырэй аб гэтым гл. „Бел. Фр. № 7, 1936 году). Пасьля гэтага справа супольнага будаваньня з літоўцамі Віленскага цэнтру заглохла.

Калі не ўдаліся спробы адбудовы Віленскага цэнтру, беларусы зьвярнуліся да полацкіх традыцыяў і пастанавілі адбудаваць *свой* палітычны цэнтр у Менску. Полацк, як ведама, да XIV стагодзьдзя быў самастойным і чыста-беларускім цэнтрам, збудаваным беларусамі, дык пастанова ўзяць спадчыну па Полацку лёгічна вяла да стварэньня такога-ж *самастойнага* цэнтру. Спачатку ня ўсе бел. дзеячы здавалі сабе з гэтага справу, думалі, што полацкія традыцыі можна будзе зьмясьціць у нейкай агульна-расейскай фэдэрацыі ці конфэдэрацыі. Ня было яшчэ веры ў свае ўласныя беларускія сілы, ня было также выпрацаванай і ясна аформленай беларускай нацыянальнай палітычнай лініі — дзеля гэтага бел. дзеячы шукалі фэдэрацыяў ці конфэдэрацыяў з суседнімі цэнтрамі. Каб узыйсьці на незалежніцкі шлях, трэба было прыглядзецца да іншых народаў, якія будавалі свае незалежныя дзяржавы (Польшч, Украіна, Літва, Латвія, Эстонія і іншыя), трэба было перажыць многа жыцьцёвых спробаў і расчараваньняў. Адкінутыя Літвою, падзеленыя Масквою ў Берасьці, загрожаныя з боку іншых палітычных цэнтраў, якія ўжо былі сарганізаваўшыся і сягалі па беларускія землі, беларускія палітычныя дзеячы ў Менску прыйшлі да пракананьня, што стварэньне сільнага беларускага цэнтру ёсьць жыцьцёвай канечнасьцяй беларускага народу — і на грунце гэтага пракананьня паўстае *акт 25 сакавіка 1918 г.,* або акт Абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі. Такім парадкам беларусы ўзыйшлі на шлях полацкіх традыцыяў.

* * *

Як мы ўжо сказалі, ідэя будаваньня свайго беларускага цэнтру не адразу паўстала ў душы беларускага грамадзянства, а насьпявала паволі і паступова. Цікава было-б дасьледаваць *прычыны,* якія прывялі да акту 25 сакавіка. Вылічым тут галоўныя:

*Першай* прычынай было імкненьне суседніх палітычных цэнтраў да задзяржаньня пры сабе юрыдычнай і фактычнай сувэрэннасьці над беларускімі землямі. Гэта рабіла асабліва Масква, якая выступала ад імя беларускага народу і ад імя гэтага-ж народу дзяліла наш народ. Гэта яна зрабіла некулькі разоў, пачынаючы ад Берасьця (1918 г.), калі падзялілася Беларусяй з Нямеччынай, а канчаючы на Латвіі і іншых. Дык каб адабраць праўную магчымасьць маскоўскаму і іншым цэнтрам выступаць ад імя беларускага народу, было пастаноўлена абвесьціць незалежнасьць Беларусі.

*Другой* прычынай была доктрына аб самаазначэньні народаў, якую вясьціў прэз. Вільсон, на падставе якой кожны народ мае права на самаазначэньне і самастойнае жыцьцё. Гэта доктрына была тэорэтычна прынята ўсімі дзяржаўнымі мужамі і праўнікамі, дык юрыдычна бярučы беларускі народ меў поўнае права абвясьціць сябе незалежным — што ён і зрабіў.

Гэта былі дзьве галоўныя прычыны абвешчаньня незалежнасьці Беларусі: адна палітычнага, другая юрыдычнага характару. Але побач з гэтымі прычынамі былі яшчэ іншыя тэорэтычныя і практычныя разважаньні. Казалі, напрыклад, што ў даўнейшыя часы ішло змаганьне за свабоду адзінак (нявольніцкаў і рабоў), а цяпер наступіла змаганьне за свабоду народаў. Нявольнікі і рабы здабылі для сябе свабоду, гэтае-ж мусяць здабыць і паднявольныя народы — і ў гэтым ляжыць сэнс навейшых падзеяў. Апроч гэтага казалі, што толькі той народ можа стварыць для сябе адпаведныя варункі жыцьця і развою, які ёсьць незалежны. Народ паднявольны мусіць прыняць такі сацыяльны парадак, які існуе ў народу пануючага; свайго-ж сацыяльнага ладу, які-б адказваў яго гістарычным, фізычным і псыхічным варункам, паднявольны народ стварыць ня можа. Дзеля гэтага ён ня можа разьвівацца і эканамічна. Гэтаксама паднявольны народ ня можа тварыць свае культуры, але залежны ёсьць ад чужой культуры і гэтым спыняецца ў сваім культурным разьвіцьці. Урешце без незалежнасьці народ гіне на карысьць іншых народаў. Гэтыя і падобныя довады прывялі прадстаўнікоў беларускага народу ў Менску да ідэі тварэньня *свайго беларускага* палітычнага цэнтру.

## „НАШ ЗОЛАК" НА БЕЗДАРОЖЖЫ.

Як мы ўжо паведамлялі, у чэрвені сёлета выйшла аднаднёўка „Наш Золак", прысьвечаная памяці памершага д-ра Т. Грыба. Пасьля ўважнага прачытаньня гэтай аднаднёўкі мы ня можам прайсьці над ёю да парадку дня, бо там побач з успамінамі аб Нябожчыку ёсьць і прынцыповыя разважаньні на тэму найглыбейшых падстаў беларускай нацыянальнай ідэолёгіі, асабліва ў артыкуле ведамага расійскага эсэра Віктара Чарнова пад заг. „Прамова на грамадзкай паніхідзе па Т. Т. Грыбу".

Прыступаючы да крытыкі гэтага артыкулу, мы засьцерагаемся, што беларускіх эсэраў, якія гуртуюцца каля „Золака", асабіста дужа шануем, як людзей чэсных і саматужных, якія не працягваюць сваіх рук да сільных гэтага сьвету з просьбай памагчы ім, але з другога боку ня можам прамаўчаць іхных памылак, якія бачым у іхнай тактыцы і ідэолёгіі. Яны, зьмяшчаючы артыкул В. Чарнова, не падалі адносна ягоных думак ніякіх засьцярог, дык выглядае, што з ягонымі думкамі згаджаюцца цалком і нават уважаюць за адпаведную рэч гэтыя думкі пашыраць у беларускім народзе, як думкі свайго павадыра. Мы ўважаем, што такое становішча з беларускага пункту гледжаньня шкоднае. Чаму? Пастараемся ў кароткіх славах выясьніць.

Перш-на-перш у артыкуле В. Чарнова праводзіцца думка аб канечнасьці *фэдэрацыі* ўсіх народаў, якія жылі некалі ў граніцах Расійскай дзяржавы і якія ўваходзяць цяпер у склад СССР. Да ліку гэтых народаў належаць і беларусы. Вось-жа В. Чарноў, пашыраючы думку аб агульна-расейскай фэдэрацыі, гэтым самым касуе акт 25-га сакавіка, які гаворыць аб незалежнасьці і сувэрэннасьці Беларусі. Як ведама, на падставе акту 25-га сакавіка Беларусь парывала ўсе дзяржаўныя, юрыдычныя і фактычныя сувязі з Расійскай дзяржавай. А В. Чарноў, стаўшы на грунт фэдэрацыі, не прызнае гэтага акту

і хоча падпарадкаваць Беларусь яе старшай сястры, як ён кажа, Велікарусі. Нашы эсэры, друкуючы гэткія пагляды павадыра расійскіх эсэраў, робяць вялікую шкоду беларускай незалежніцкай ідэолёгіі і знаходзяцца, з пункту беларускага гледзячы, на бездарожжы, бо адкідаюць канон *беларускай* палітычнай лініі.

На наш пагляд, стаўшы на грунт агульна-расійскай фэдэрацыі, або як кажа В. Чарноў, на грунт „Сацыялістычнай Лігі Новага Ўсходу“, яны становяцца такжа на грунт „единой і неделимой“. Не паможа тут цьверджаньне В. Чарнова, што гэта мае быць саюз сувэрэнных народаў. Бо калі „саюз сувэрэнных народаў“, дык чаму толькі тых, што ўваходзілі ці ўваходзяць у склад Расійскай (такой ці іншай) дзяржавы? Кожны-ж ведае, што ў паняцьці *сувэрэннасьці* ляжыць права свабоднага выбару таго ці іншага саюзу ці пакту. А калі стаць выключна на грунт расійскай фэдэрацыі, гэтае права касуецца. Мы не адкідаем згары і наперад магчымасьці саюзу народу беларускага з суседнімі народамі; магчыма, што ў некаторых абставінах гэты саюз быў-бы карысны, але ня можам зразумець, каб згары і наперад накідаць беларускаму народу нейкі азначаны саюз і то яшчэ ў форме фэдэрацыі!

А што значыць гэная „Сацыялістычная Ліга Новага Ўсходу“, якую пашырае В. Чарноў і якою быццам быў захапіўшыся і Т. Грыб? Можа гэта мае быць нейкі *расійскі* інтэрнацыянал? Вось-жа мы гэтага „інтэрнацыяналу“ не разумеем. Мы разумеем сацыялістычны (ІІ-гі) інтэрнацыянал, разумеем і камуністычны (ІІІ-ці), разумеем інтарнацыял трацкістаўскі (IV-ты), бо гэтыя інтэрнацыяналы абыймаюць усе народы, усё чалавецтва. Але што значыць „расійскі інтэрнацыянал“ і як яго разумець? Сусьветны, сапраўдны інтэрнацыянал лучыць *усе народы* на роўных правох у адзін вялікі саюз, але што дасьць нам „расійскі інтэрнацыянал“ або тая „Сац. Ліга Новага Ўсходу“? У найлепшым выпадку тое, што даў цяперашні савецкі інтэрнацыянал, які ў сяньняшніх абставінах зьяўляецца якраз расійскім інтэрнацыяналам. Дык чаго рыпацца? Ці не працуюць у гэтым кірунку іншыя?

Але ёсьць і яшчэ адна небясьпека, выплываючая з „фэдэрацыйнай“ ідэолёгіі. Скажам, адным беларусам падабаецца расійская фэдэрацыя, але другім можа спадабацца якая іншая. І што тады? Астаецца нутраное змаганьне беларусаў за ар'ентацыі і фэдэрацыі, што і так ужо абясьсіліла наш народ!

Каб лепш зразумець шкоднасьць розных фэдэрацыяў, возьмем прыклад з чужых партыяў, хаця-б з ППС. Гэта партыя ёсьць польская і патрыятычная, гэтаксама як эсэраўская ёсьць расійскай патрыятычнай партыяй. ППС належыць да ІІ-га інтэрнацыяналу і ніхто яе ў гэтым ня вінуе і не закідае здрады польскіх нацыянальных інтарэсаў. Але што сказалі-б, каб, напрыклад, гэта партыя далучылася да расійскага, нямецкага, французскага ці якога іншага „інтэрнацыяналу“, або інакш кажучы фэдэрацыі? Мы думаем, што закіды былі-б для ППС вельмі прыкрыя...

Мы высока паважаем Віктара Чарнова, як прадстаўніка расійскага народу і павадыра рас. эсэраў. Уважаем, што беларусы ў Празе могуць з ім гаварыць аб будучых беларуска-расійскіх адносінах, але толькі як прадстаўнікі юрыдычна-сувэрэннага народу, а не як частка вялікага расійскага народу ці як малодшая сястра агульна-расійскай сям'і. Іншае становішча ёсьць з пункту гледжаньня беларускага шкодным як у сучаснасьці так і ў будучыне. Панашаму, заўсёды трэба ставіць на першым месцы „сувэрэннасьць“, а потым ужо „саюз“. Бо як сапраўдны саюз можа быць толькі паміж вольнымі і сувэрэннымі (sui iuris) людзьмі, гэтаксама сапраўдны саюз можа быць толькі паміж вольнымі і сувэрэннымі народамі. Без папярэдняй сувэреннасьці чалавека ці народу кожны саюз ёсьць фікцыяй. Урэшце В. Чарноў гаворыць нават аб *рэлятыўным* разуменьні самой сувэрэннасьці г. зн. што сувэрэннасьць можа быць такая, а можа быць і гэтакая! Калі верыць В. Чарнову, на грунце такой рэлятыўнай сувэрэннасьці стаяў і Т. Грыб! Проста не хацелася-б у гэтае верыць, калі-б вестак аб гэтым не пашыралі самі сябры д-ра Т. Грыба, віленскія эсэры? І як гэта назваць: бездарожжам, шкодніцтвам ці недаразуменьнем?

Мы верым у патрыятызм беларускіх эсэраў, ведаем, што яны не хацелі-б шкодзіць свайму народу, дзеля гэтага ня можам зразумець іхнай тактыкі і ідэолёгіі. Калі яны ўважаюць В. Чарнова за павадыра *ўсіх* эсэраў, дык няўжо існуе нейкая *арганічная сувязь* паміж беларускімі і расейскімі эсэрамі? Гэта ўжо было-б сапраўднае бездарожжа! Гэтым самым беларускія эсэры апраўдывалі-б тактыку і ідэолёгію тых беларусаў, якія належаць на падставе „аўтаноміі“ да іншых чужых партыяў! Вялікая шкада, што бел. эсэры ня выдалі сваей праграмы і не зьмяшчалі ў сваіх часапісах ідэолёгічных артыкулаў, паказваючых іхны ідэолёгічны твар і кірунак. У апошняй аднаднёўцы мы знайшлі прамову В. Чарнова, лідэра расійскіх (выглядае, што і беларускіх) эсэраў і гэта прамова, якая, на наш пагляд, у ніякім выпадку не магла быць надрукаванай у беларускім часапісе, дала нам матар'ял да пазнаньня ідэолёгіі і беларускіх эсэраў. А можа гэная прамова была надрукавана дзеля нейкага недаразуменьня, дык пажаданым было-б, каб бел. эсэры выдалі ўрэшце сваю ідэолёгічную праграму і абаснавалі яе. Гэта магло-б адхіліць ад іх падазрэньне ў бездарожжы і закіды аб шкоднасьці іхнай дзейнасьці для беларускага народу.

**А. В.**

## ЗАЦЕМКІ З ЖЫЦЬЦЯ.

**Шкоднае змаганьне.** На Холмшчыне і Падлясьсі, якія ляжаць на той бок Бугу, у ліпні месяцы адбываліся сумныя падзеі. У ўкраінскіх і расейскіх газэтах поўна было вестак аб разьбіраньні і нават паленьні безадказнымі дзейнікамі праваслаўных цэркваў у гэных ваколіцах. Паміж каталіцкім насельніцтвам і праваслаўным разгарэлася там рэлігійнае змаганьне, якое прывяло да вялікай варожасьці паміж гэтымі часткамі жыхарства, населяючымі адзін край. Украінскі пасол С. Баран і сэнатар О. Луцкі выступілі ў польскім парляманце з гарачымі прамовамі ў абароне Праваслаўнай царквы. Адозву ў гэтай справе Праваслаўнага Сыноду ў Польшчы адм. улады сканфіскавалі, як няпраўдзіва прадстаўляючую тамашняе палажэньне. З інтэрпэляцыі пасла Барана, якая была адчытана ў сойме, і якая была надрукавана ва ўсіх укр. газэтах, відаць, што разабрана ў апошнім часе на Холмшчыне і Падлясьсі 107 цэркваў, а спалена нявыкрытымі злачынцамі тры. Разборку цэркваў праводзілі польскія работнікі пад абаронай паліцыі. Мясцамі даходзіла да трагічных сцэн з боку праваслаўнага насельніцтва, якое, бачучы руйнаваньне сваіх сьвятыняў, малілася і плакала.

Да чаго гэта ўсё вядзе? На наш пагляд, гэтыя падзеі могуць прывесьці да вялікай варожасьці і падзелу паміж праваслаўным і каталіцкім насельніцтвам у Польшчы. Справядліва адзначыў у сваей прамове пасол Баран, што варочаюцца часы XVII стагодзьдзя, у якіх таксама дзеля рэл. нетолеранцыі розных дзейнікаў прыйшлі на Польшч розныя няшчасьці. Праўда, цяперашняя, савецкая Расія ў рэліг. справах інтэрвэніяваць ня будзе, але хто можа заручыцца, што яна ня выкарыстае гэных падзеяў у іншы спосаб, арганізуючы растучае нездаваленьне? Апроч гэтага ў насельніцтве распаліцца рэліг. фанатызм, варожасьць і змаганьне. А гэта ўсё можа прынесьці вялікую шкоду і для беларускага народу. Бо калі-б гэнае змаганьне пераняслося да нас, дык яно гразіць паглыбленьнем падзелу паміж дзьвяма часткамі беларускага народу: каталікамі і праваслаўнымі. Каталікі ў некаторых ваколіцах маглі-б быць уцягнуты ў паход процiў праваслаўных (як гэта напрыклад было сёлета ў Ёдах, Браслаўск. пав.). Уважаем, што такое змаганьне для беларускага народу было-б шкоднае як з пункту гледжаньня нацыянальнага так і рэлігійнага. Спадзяёмся, што ў нашым краі яно не наступіць.

**Палеская банда.** У другой палавіне ліпня пінская і столінская паліцыя занята была ліквідацыяй банды, зложанай з 22 асоб, якая лясамі і балотамі перабіралася ў Саветы, быццам з тэй мэтай, каб адтуль выехаць у чырвоную Гішпанію. Пры ліквідацыі адбывалася фармальная бітва, бо банда была ўваружана і зарганізавана, мела пры сабе расійскія вінтоўкі, многа амуніцыі і вайсковыя карты. Былі раненыя як з боку паліцыі так і ўчасьнікаў банды. Пасьля бітвы пад Дэрэвнаю (Пінскага пав.) узята 12 чалавек банды, потым яшчэ некалькі (у гэтым адну дзяўчыну), так што да канца ліпня злоўлена 19 чалавек, асталося толькі 3 на свабодзе. Усе сябры банды — людзі маладыя, толькі павадыр быў чалавекам старэйшым, „з бурліваю бунтарскаю мінуўшчынай“, як піша польская прэса. Прозьвішчаў сяброў банды прэса не падае. Былі

# МАТАР'ЯЛЬНАЯ ГАЛІТА „РОЙСТАЎ“.

**(З цыклю „Чаму бунтуюцца „Ройсты“?).**

Каб добра зразумець настроі, жаданьні, імкненьні нашага сялянства, трэба пазнаць ягонае матар'яльнае жыцьцё. Тут кожны бесстаронны наглядчык, нават такі, які ня ўмее ці ня хоча глыбей глянуць у гэтае жыцьцё, сьцьвярджае, што галоўнай прыметай бел. вёскі ёсьць вялікая матар'яльная галіта, якая мясцамі даходзіць да апошніх граніц. Часам гэтая галіта настолькі вялікая, што людзі, якія знаюць жыцьцё зах.-эўрапэйскага, або хоцьбы літоўскага ці латышскага сялянства, ня могуць зразумець, як у такіх матар'яльных варунках можа жыць чалавек! І то не адзін чалавек і не адна сям'я (што трапляецца ўсюды), але мясцамі цэлыя вёскі! Дык кожнага, хто знае варункі бытаваньня, скажам, нямецкага, данскага, французскага і інш. селянства і трапіць у бел. варункі, праймае на пачатку нейкі жах — і толькі потым, прывыкшы да гэтай галіты, пераходзіць над ёю да парадку дня.

Мы ў гэтым артыкуле дадзём спачатку пару абразкоў галіты нашых „ройстаў“, а потым разважым прычыны і скуткі яе, а ўканцы пададзём некаторыя спосабы ратунку. Каб нас не западозрылі ў старонnasьці і „згушчаньні фарбаў“, што мы, маўляў, тэндэнцыйна асьвятляем палажэньне нашага сялянства, мы пададзём галасы польскай прэсы, якой прадстаўнікі адведвалі нашыя „крэсы“ і потым апісвалі свае ўражаньні.

„Mały Dziennik“, які не вызначаецца сымпатыяй да беларусаў, у мінулым годзе (7.II.1937.) зьмясьціў рэпартаж свайго супрацоўніка з Браслаўшчыны. Праўда, гэты рэпартаж паходзіць з прошлага году, калі Браслаўшчына пераживала скуткі страшэннай засухі, якая была ў 1936 г. Сёлета там лепш, але затое скуткі засухі моцна адчуваюцца на другім канцы беларускіх паветаў, у Беластоцкім і Палескім ваяводзтвах, адкуль праз усю зіму і вясну сёлета прыходзілі трывожныя весьці, дык гэты рэпартаж і цяпер актуальны.

Рэпартаж „Mał. Dziennika“ мае доўгі і вымоўны загаловак: **„Там, дзе цэлыя вёскі жывуць хлебам і вадою. Неспатыканая галіта селяніна ў Браслаўскім павеце“.** У рэпартажы пішацца так: „Пры дарозе ляжыць вёска. Выглядае ня надта гасьцінна, бо паміма яшчэ няпознага вечару, у вокнах ня мігцяць іскрачкі сьвятла. Хаты стаяць цёмныя, у цішы, якой не нарушае нават брэх сабакі. Пад'яжджаем пад адну з хатаў. Ніхто ня выходзіць нас спатыкаць, хоць наш вазок нарабіў страшнага грукату, які могбы прабудзіць нябожчыка. Злазім з нязвычайна цьвёрдага седзішча і пачынаем стукаць ў дзьверы. Па хвіліне з-за прыадчыненых дзьвярэй высовываецца кудлатая галава гаспадара. На нашу ветлую просьбу, каб пазволіў абагрэцца, буркнуў нешта незразумелае, але адчыніў шырэй дзьверы, запрашаючы ў сярэдзіну. Мы ўвайшлі. Ударыла нас тухлае паветра ніколі няветранай хаты крэсовага мужыка. У цемры відаць было толькі слабую абрысоўку ваконца з зусім замерзлымі шыбамі. Гаспадар зьвярнуўся з просьбай, каб даць яму сярнічку і пры яе помачы засьвяціў лямпку, зробленую з старой чарнільніцы, у якую наліта нафты. Слабы агоньчык асьвяціў цёмныя сьцены хаты, непраўдападобна брудны стол, пару ўслонаў, нейкія паліцы і бярлог, на якім пасярод лахманоў і саломы тулілася да сябе трое фармальна голых і страшна захудалых дзяцей. У хаце панаваў праймаючы холад.

„Селі мы пры стале і, прыкрыўшы яго паперай, разлажылі на ім свае падарожныя запасы. Узялі мы іх многа, бо нам казалі, што ў гэтай ваколіцы не дастанеш нічога, бо сяляне галадаюць. На нашу ежу гаспадар і ягоныя дзеці спаглядалі проста з зьвярынай прагавітасьцю, дык мы з задаваленьнем папрасілі іх да супольнага пасілкаваньня. Па некалькіх мінутах мы ўжо ведалі, што наш гаспадар мае 3 з палавінай гэктара зямлі. Яшчэ летам меў каня і 2 каровы. Вялося яму даволі добра. Зруйнавала яго летняя засуха ў 1936 годзе. Жыта выплыла вельмі стройна, але пакуль зярнё завязалася, сонца спаліла сьцябло на салому, з якой не вымалацілі нічога. Яравое збожа не пасьпела нават закаласіцца. Трава на сенажацях таксама не пасьпела вырасьці. Не дала зямля ў гэтым годзе ані хлеба для людзей, ані пошару для жывёлы. Каровы пайшлі на продаж раньняй восеньню, без цаны. Прадаў іх, як толькі кончылася паша на спаленых сонцам дзірванох. Жыды скарысталі з вялікай падачы на рынках і далі сьмешна нізкую цану“.

Гэтак апісвае жыцьцё браслаўскага селяніна польская газэта. Кожны, хто адведвае нашу вёску, знае, як часта, нават і ў негалодныя гады, гэтакі абразок жыцьця спатыкаецца на беларускіх „ройстах“.

А вось і другі абразок, які падае „Słowo“ (17.III.1937) у сувязі з даўнейшым загадам бяленьня хат. Гэты абразок цяпер, пры нядаўным, паўторным загадзе, стаецца

# На міжнародным грунце

У месяцы ліпні здарыліся такія важныя выпадкі, на якія трэба зьвярнуць увагу: 1) крывавыя сутычкі паміж Саветамі і Японіяй на Далёкім Усходзе; 2) прыезд англійскага караля Юрага VI у Парыж; 3) зьвязаныя з гэтым прыездам дыпляматычныя ходы Нямеччыны; 4) пасярэдніцтва Англіі ў чэска-нямецкім канфлікце. Не без значэньня былі таксама ваенныя падзеі ў Кітаі, Гішпаніі і Палестыне. У Кітаі Японія ідзе на Ганкоў, у Гішпаніі б'юцца пастараму, г. зн. бяз відавочных рэзультатаў, а палестынскія падзеі выклікалі наладжаньне вялікага мусулманскага кангрэсу, які адбудзецца ў Каіры (Эгіпет) у жніўні: ён будзе мець вялікае значэньне для далейшага разьвіцьця падзеяў ня толькі ў Палестыне але і на ўсім Усходзе. Апроч гэтага ў ліпні адбылася канфэрэнцыя 32 дзяржаў у Эвіян (Швайцарыя) у справе жыдоў, якіх высяляюць з Нямеччыны і Аўстрыі (высялілі ўжо 250 тысяч), прыгэтым некаторыя дзяржавы, Англія, Францыя і інш. згадзіліся неафіцыяльна і цішком пусьціць да сябе па 50 тысяч жыдоў. Гэта ёсьць агульны агляд, пяройдзем цяпер да паасобных пунктаў.

### САВЕТЫ — ЯПОНІЯ.

Неспадзявана на Далёкім Усходзе разгарэлася паміж Саветамі і Японіяй крывавае змаганьне за кавалак спрэчнай манджурскай зямлі, Чанг-Ку-Фэнг, якая ляжыць пры зыходжаньні граніц Саветаў, Манджурыі і Карэі. Савецкія аддзелы 12.VII. занялі гэты кавалак і акапаліся там. Японія праз свайго пасла ў Маскве запратэставала проціў заняцьця манджурскай тэрыторыі, зажадала адходу сав. аддзелаў, прыгэтым загразіла сілаю. Літвінаў адказаў, што Саветы сілы не баяцца, а заняты кавалак зямлі належыць да Расіі, прыгэтым паказаў старую карту з 1869 г. Пасьля гэтага Японія яшчэ некулькі разоў пратэставала, паказваючы карты рас. генэр. штабу з 1911 году і робячы розныя прапазыцыі з мэтай зьліквідаваньня канфлікту (напрыклад, прапанавала ўтварэньне камісіі, зложанай з прадстаўнікоў Японіі, Манджурыі і Саветаў, якая-б дакладна абазначыла граніцу), але ўсе прапазыцыі Японіі былі адкінуты. Тады японскія аддзелы 31.VII занялі Чанг-Ку-Фэнг сілаю, выбіваючы адтуль савецкіх салдат, прыгэтым было многа забітых і раненых як з аднаго боку так і другога. Паводле вестак, страты Саветаў былі большыя за японскія. На гэта Саветы адказалі контрнаступленьнем, уводзячы большыя сілы і цяпер там ідзе сапраўдная вайна.

Цікава, што магло прычыніцца да гэтакай радыкальнай зьмены тактыкі Саветаў, якія дагэтуль заяўлялі, што іх ніхто не справакуе да вайны, а цяпер самі шукаюць зачэпкі? Вось-жа, у першую чаргу Саветы вымагалі ад Англіі і Францыі, каб яны ім гварантавалі бясьпеку на Захадзе, калі яны выступяць на Ўсходзе. Магчыма, што гэтую гваранцыю цяпер атрымалі, бо вайна Саветаў з Японіяй для Англіі вельмі карысная: яна аслабляе двух яе праціўнікаў на азійскім грунце... Але магчымы яшчэ і іншыя прычыны выступленьня Саветаў: 1) помач Кітаю ў яго трудным палажэньні; 2) вымушэньне ад Японіі пакту ненападаньня, з тым, што яна ня выступіць проціў Саветаў пасьля заўладаньня Кітаем; 3) помста за падзеі з 1937 г. (чэрвень), калі Саветы прымушаны былі ўступіць з занятых імі дзьвух выспаў на Амуры, прычым была затоплена сав. кананерка. Цяпер Саветы спадзяюцца, што вайна на два фронты для Японіі будзе не па сіле і яна пойдзе на ўступкі. Нямецкая прэса піша, што ў выступленьні Саветаў крыецца лёкальная дывэрсія, пры помачы якой яны хочуць адцягнуць Японцаў ад паходу на сталіцу Кітаю — Ганкоў і што „сапраўднай“ вайны ня будзе. Гэтаксама пішуць англійская і француская прэса, заяўляючы, што пагранічная спрэчка паміж Саветамі і Японіяй не першая і не апошняя. А можа і сапраўды Саветы зарызыкавалі на вайну? Тады мы былі-б сьведкамі сапраўды вялікіх падзеяў! Бо хто ведае, як да гэтай вайны адносяцца-б Нямеччына, якой дыпляматычная дзейнасьць, шукаючая кантактаў з Англіяй і Францыяй, у апошнім часе вельмі ажывілася!

### ДЫПЛЯМАТЫЧНАЯ ІГРА Ў ЭЎРОПЕ.

У ліпні, як ведама, англ. кароль Юры VI адведаў Парыж. Пры гэтай аказіі быў сцэмэнтаваны аканчальна саюз паміж Англіяй і Францыяй, абапёрты ідэолёгічна на дэмакратызьме, а практычна — на вайсковым саюзе. Вось-жа, у дзень перад выездам караля ў Парыж прыехаў у Лёндын ад'ютант Гітлера Відэман, які прывёз з сабою запэўненьне Нямеччыны, што яна ня шукае аружнае расправы з Чэхаславаччынай і што гатова супрацоўнічаць з Англіяй у справе міру ў Эўропе. Мала гэтага, Гітлер зьвярнуўся і да Францыі, выражаючы жаданьне, каб францускі ўрад вызначыў ад сябе якога дыплямата, каторы-б добра ар'ентаваўся ў нямецка-францускіх адносінах і з якім можна было-б пачаць гутаркі аб нямецка-францускім пакце... Францускі ўрад вызначыў ген. Лерона (Le Rond'a), які быў ужо ў Бэрліне і быццам гутаркі з ням. дыпляматамі пасунуў вельмі далёка...

Гэтакая палітыка Гітлера няхай нас ня дзівіць. У сваей праграмовай кнізе „Mein Kampf“ Гітлер востра крытыкуе палітыку Вільгельма, які пасварыўся з усімі сваімі суседзямі — і праіграў. Паводле Гітлера перад нямецкай палітыкай ляжаць два кірункі: адзін — **на мора**, другі — **на ўсход**. Калі ісьці на мора (г. зн. па калёніі) дык трэба пагадзіцца з суседзямі на Усходзе; калі ісьці на Усход, дык ня можна дражніць Англіі. Відаць, ад паходу „на мора“ Нямеччына цяпер адказваецца і затым шукае саюзу з Англіяй і нават Францыяй! Калі-б дайшло на Захадзе да нейкага паразуменьня ў гэтым кірунку, гэта магло-б цалкам перамяніць уклад палітычных сіл у Эўропе. Дагэтуль Нямеччына ішла на Захад, здабыла Надрэнію, Аўстрыю і г. д. Ідучы ў гэтым кірунку, Ням. забясьпечылася на Усходзе саюзам з Польшчай, але калі-б пагадзілася з Англіяй і Францыяй, дык на Усходзе саюзьнікі для яе былі-б лішнімі...

Польская дыплямацыя, відаць, адчувае гэтае, бо мы зьяўляемся сьведкамі энэргічнай акцыі мін. Бэка. У маі ён быў у Штокгольме (Швэцыя), у чэрвені — у Тальліне (Эстонія), у ліпні — у Рызе (Латвія), цяпер прабывае ў Ослё (Нарвэгія), потым мае адведаць Рым. Мэта гэтакай энэргічнай дзейнасьці: шуканьне саюзьнікаў дзеля стварэньня саюзу нэўтральных дзяржаў на чале з Польшчай, паміж двама ідэолёгічнымі блёкамі. Паводле вестак часткі польскай прэсы, акцыя мін. Бэка не прынясла пажаданых рэзультатаў, асабліва ў Прыбалтыцы, а Ул. Студніцкі у „Słowie“ (16.VII) выразна кажа, што рэзультаты тамака роўны нулю... Найболей прыхільна да пляну польскай дыпляматыі адносіцца Румынія. Трэба прызнаць, што калі мін. Бэку не ўдадуцца ягоныя пляны, палітычнае палажэньне Польшчы будзе труднае і трэба будзе лічыцца з дымісіяй мін. Бэка і з зьменай палітыкі Польшчы. Толькі ў якім кірунку? Ясна, што ў шуканьні апірышча або ў адным, або ў другім блёку. Іншага выхаду тады ня будзе.

### СПРАВА ЧЭХАСЛАВАЧЧЫНЫ.

Праўду кажучы, каля Чэхаславаччыны сканцэнтравалася цяпер ўся эўрапэйская дыплямацыя. Кажуць нават, што будучыня чалавецтва ня будзе вырашана на палях Гішпаніі, Кітаю ці Манджурыі, а ў дыпляматычнай ігры, што адбываецца каля Чэхаславаччыны! Яна здэцыдуе аб будучым міжнародным укладзе сіл. Дзеля гэтага на справу Чэх. зьвернена ўвага ўсяго сьвету.

Як мы ўжо пісалі, судэцкія немцы, за каторымі стаіць Бэрлін, жадаюць быць сугаспадарамі Чэхаславаччыны і дамагаюцца парваньня саюзу з Саветамі, а чэхі даюць ім толькі некаторыя правы ў школьніцтве, самаўрадзе і адміністрацыі. Пасьля пару гутарак нямецкіх прадстаўнікоў з чэскім урадам, справа нямецка-чэскіх адносін апынулася ў тупіку. Тады, на жаданьне Нямеччыны, у гэтую справу ўмяшалася **Англія і выслала** ў Чэх. лёрда Рэнсімэна (Runciman), каб ён дасьледаваў справу на месцы і пашукаў выхаду з ням.-чэскай справы. Дня 3.VIII. Рэнсімэн прыехаў у Прагу. Гэта азначае, што Англія ўзяла на сябе **пасярэдніцтва** паміж Ням. і Чэх. і разам з гэтым маральнае забавязаньне давесьці да згоды; але з другога боку гэта значыць і ўмяшаньне Англіі ў нутраныя справы Чэх., што для яе прэстыжу ёсьць вельмі балючым. Да чаго давядзе місія Рэнсімэна і наагул пасярэдніцтва Англіі, пакажа будучыня.

### ПАЛЕСТЫНА.

Палестынскія падзеі ў ліпні зьвярнулі на сабе ўвагу палітычнага сьвету. Справа ў тым, што жыды там зьмянілі тактыку. Дагэтуль яны дзяржаліся тактыкі абароннай, проціў арабаў дзейна ня выступалі, зносілі іхны тэрор, думаючы, што ён некалі выб'ецца з сіл і перастане. Аднак, калі пабачылі, што іх надзеі не апраўдываюцца, самі перайшлі да контртэрору. І, як на пачатак, з даволі відавочным рэзультатам. (Ад аднэй бомбы, якую жыды кінулі ў targовы дзень у Гайфе, згінула 37 арабаў, а 60 было раненых!). Наагул у ліпні забітых арабаў было 148 чалавек (тады калі жыдоў 60), раненых арабаў 256, жыдоў — 201. Чаму ў арабаў болей ахвяр, чым у жыдоў? Справа простая. У жыдоў большая тэхніка і лепшае ўваружэньне, апроч гэтага яны зарганізаваны ў легальныя вайсковыя аддзелы, маюць свае стратэгічныя і амуніцыйныя базы, а арабы мусяць змагацца на два фронты: з жыдамі і з англійскім войскам, ня маючы ані такога ўваружэньня, ані арганізацыі. Прыгэтым англ. улады нішчаць арабскі рух усімі сіламі; даволі сказаць, што ў ліпні было ўзарваных дынамітам 400 арабскіх дамоў за такую ці іншую помач арабскім тэрорыстам! Пераход жыдоў на контр-тэрор можа прывесьці да скарэйшай разьвязкі палестынскай справы. Усе чакаюць агульна-мусулманскага кангрэсу ў Каіры і яго пастановаў.

### РАЗВАЛ КАМУНІСТЫЧНАЕ ПАРТЫІ ПОЛЬШЧЫ.

Нелегальны орган КПП (Кам. Партыі Польшчы) „Czerwony Sztandar“, які выходзіць цяпер папольску (даўней выходзіў і пабеларуску як „Чырвоны Сьцяг“) у нумары за чэрвень сёлета зьмяшчае камунікат Камінтэрну, у якім паведамляецца ўсіх сябраў КПП, што Цэнтр. Камітэт КПП разьвязаны, разьвязаны такжа ўсе раённыя і мясцовыя камітэты і што вызначаны новыя ўлады КПП. Разам з гэтым рэарганізаваны і Цэнтр. Катітэт КПЗБ. „Чыстка“ наступіла з тэй прычыны, што партыйны апарат складаўся з трацкістаў і правакатараў. Апроч гэтага з Масквы прыйшлі весткі аб растрэле павадыроў польскага камунізму, якія былі ўцяклі ў Саветы: Ленскага (Лешчынскага), Варскага, Сохацкага, Жарскага, Пурмана і інш. (гл. „Słowo“ 12.VII).

**РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:**

**інж. А. Дубейкаўскі,**
**мгр. В. Гадлеўскі,**
**мгр. М. Шкялёнак,**
**студ. В. Папуцэвіч.**

Адказны рэдактар:
**мгр. В. Гадлеўскі.**

такжа куплі і прадажы нярухомай маемасьці. На ўсё патрэбны дазвол адмін. уладаў, які трудна дастаць, што вельмі сьціскае жыхарства. Даволі сказаць, што цяпер да прыгранічнага пояса належыць **усе** Віленскае ваяводзтва, цэлы рад паветаў Навагрудзкага, Палескага і Беластоцкага ваяводзтваў. Укр. газэта „Діло“ (№ 157) заінтарасавалася, ці загад аб прыгранічным „поясе“ гэтаксама востра тасуецца і на заходніх граніцах Польшчы, аднак весткі адтуль былі болей спакойныя. У тымжа артыкуле „Діло“ кажа, што да прыгранічнага пояса належыць каля пятай часьці дзяржавы і што гэтая часьць эканамічна замірае...

### АБ СТРЭШКАВЫХ БРАМАХ.

У мінулым нумары „Б. Фр.“ мы пісалі аб загадзе зразаньня стрэшкавых брамаў, за гэта „Б. Фр.“ быў сканфіскаваны, прыгэтым у старастве нам заявілі, што такога загаду ані віл. староства, ані ваяводзта не выдавалі. А ўсёжтакі брамы як у Вільні так і на правінцыі паліцыя загадывала зрэзваць! Дык няўжо яна рабіла сваім водумам? (З правінцыі маем весткі, што ў Смаргонях, напрыклад, брамы асталіся, а ў Гальшанах зрэзаны!

У справе кансэрвацыі брамаў Бел. Нав. Т-ва выслала дня 24.VI. у Мін. Асьветы (Аддзел Мастацтва) пратэст, а да Віл. Ваяводы хадзілі ў гэтай справе прадстаўнікі польскага грамадзянства (пані Прыфэр і іншыя), просячы інтэрвэнцыі. Пан Ваявода абяцаўся выдаць загад, спыняючы зразаньне брамаў. Трэба ведаць, што гэтыя брамы, пастаўленыя пры ўезьдзе ў дварышча, маюць сваё архітэктонічнае і гістарычнае значэньне, як памяткі беларускага стылю і традыцыі.

### АХВЯРЫ НА БЕЛ. МУЗЭЙ.

Як ведама, Бел. Музэй у Вільні цяпер ня мае дзяржаўнай падмогі на аплату кватэры і захаваньне вялікіх скарбаў беларускае культуры, якія ў ім сабраны. Дзеля гэтага віленск. беларускае грамадзянства прыходзіць свайму Музэю з помачай сыстэматычнымі месячнымі грашовымі складкамі. Трэба, каб і пазавіленскае грамадзянства прыняло ўдзел у ахвярах на ўтрыманьне Музэю.

Грамадзяне! Складайце грашовыя ахвяры на ўтрыманьне Белар. Музэю ў Вільні, дзе захоўваюцца цэнныя скарбы старой і цяперашняй культуры Беларускага народу. Ахвяры можна слаць на адрас „Бел. Фронту“ з зазначэньнем: **на Музэй.**

Выдавец: В. ПАПУЦЭВІЧ.

Друкарня М. Багаткевіча і В. Труцько. Вільня, вул. Ад. Міцкевіча 22-а.